# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН

22 — 28 чэрвеня 2001 г.
№ 25 (288)

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года




## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

**Здадзены ў эксплуатацыю**

У горадзе Бяроза здадзены ў эксплуатацыю новы лячэбна-дыягнастычны корпус.

2-я стар.

**Андрей Климов: экономическое правонарушение или политическая расправа?**



Депутат Верховного Совета 13-созыва, бизнесмен Андрей Климов содержится в условиях изоляции более трех лет...

3-я стар.

**"Ситуация исправится..."**

Вот уже пятый год партия коммунистов белорусская находится в оппозиции действующей власти.

5-я стар.

# 22 ЧЭРВЕНЯ. РОЎНА Ў 4 ГАДЗІНЫ...

Гэтае выслоўе і праз 60 гадоў пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны прымушае кожнага, хто перажыў жудасную трагедыю, міжволі страпянуцца зноў, адчуць страх і пагрозу. А тым, хто гэта калісьці не зведаў, яшчэ раз расказаць пра кроў і смерць, пра сіротаў і інвалідаў, пра спаленыя гарады і вёскі, пра нязломную сілу волі тых, каму ўдалося застацца жывымі.

Больш за 20 мільёнаў жыццяў забрала вайна. У нашай Беларусі загінуў кожны чацвёрты. Было разбурана і спалена тысячы паселішчаў.

За гады акупацыі было знішчана ў былых Касаўскім раёне 3112 чалавек, у Быценскім — 1816, у Целяханскім — 3226 мірных грамадзян. Было вывезена ў рабства ў Нямеччыну больш за дзве тысячы чалавек.

Нямецкія карнікі знішчалі вёскі разам з мірнымі жыхарамі — дарослымі і дзяцьмі. Вёску Бабровічы (Івацэвіцкі раён), напрыклад, фашысты спалілі дашчэнту і знішчылі 676 чалавек. Такі ж лёс напаткаў вёскі Вяда, Тупічыцы, Красніца, Зацішша, якія пасля вайны ўжо не аднавіліся.

У Косаве напачатку вайны было створана гета, туды сагналі сотні яўрэйскіх сем'яў, затым іх вывезлі ва ўрочышча "Марачоўшчына" і там расстралялі.



Святаслаў КАЖАДУБ.

Помнік ахвярам фашызму ў вёсцы Заполле Косаўскага сельсавета Івацэвіцкага раёна.

У кар'еры за Івацэвічамі карнікі знішчылі звыш тысячы чалавек, столькі ж у Целяханах. Ва ўрочышчы "Грэчышча" расстралялі 1200 чалавек, ля Быцені — 980, у Вялікай Гаці — 150 жыхароў... Гэты лёс напаткаў многія і многія населеныя пункты, вялікія і малыя.

Яшчэ і сёння кожная сям'я помніць аб страчаных бацьку ці маці, сына ці дачцы, браце ці сястры...

Трагедыя не забываецца, колькі б ні мінула часу.

Час часова прытупляе боль, але не загойвае глыбокія раны, фізічныя і маральныя.

Святаслаў КАЖАДУБ.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Кандыдатаў — 22

**21 чэрвеня 2001 года пачаўся збор подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асоб, якія прапануюцца для вылучэння кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. З заявамі аб рэгістрацыі ініцыятыўных груп грамадзян па вылучэнню кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у Цэнтральную камісію звярнуліся 26 чалавек.**

**У адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 61 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь Цэнтральная камісія зарэгістравала ініцыятыўныя групы грамадзян па вылучэнню кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь:**

Цярэшчанкі Віктара Іванавіча, Гайдукевіча Сяргея Васільевіча, Казлоўскага Паўла Паўлавіча, Мякекі Мікалая Міхайлавіча, Калякіна Сяргея Іванавіча, Пазьняка Зянона Станіслававіча, Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча, Домаша Сямёна Мікалаевіча, Сініцына Леаніда Георгіевіча, Марыніча Міхаіла Афанасьевіча, Ганчарыка Уладзіміра Іванавіча, Антончыка Сяргея Антонавіча, Ярашука Аляксандра Ільіча, Канановіча Канстанціна Канстанцінавіча, Калугіна Леаніда Іванавіча, Семака Валянціна Міхайлавіча, Машэравай Наталлі Пятроўны, Чыгіра Міхаіла Мікалаевіча, Крыжаноўскага Яўгена Анатольевіча, Данькова Юрыя Пятровіча, Леванеўскага Валерыя Станіслававіча, Скрабца Сяргея Мікалаевіча.

"Звязда".

## Пра што трэба маўчаць

**Аляксандр Лукашэнка наведаў Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне. А напярэдадні на прадпрыемстве пабывалі прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта. Рабочых інструктавалі, як паводзіць сябе ў час візіту высокага госця, якія пытанні задаваць, а пра што маўчаць.**

Пачынаючы з мінулага тыдня, Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне па чарзе наведвалі чыноўнікі з прэзідэнцкай адміністрацыі і супрацоўнікі ягонай службы аховы.

Паводле работнікаў прадпрыемства, не засталося ніводнага кутка, куды не зазірнулі б ахоўнікі. У панядзелак у мэтах бяспекі адключылі ўсе ліфты. Шэраг пакояў зачынілі да сканчэння візіту, а ўваход туды быў катэгарычна забаронены нават кіраўнікам цэхаў.

Але найбольш людзей абурыў інструктаж, які правялі сярод супрацоўнікаў, якіх дэлегавалі на сустрэчу з Лукашэнкам. Гаворыць рабочы прадпрыемства, які, баючыся пераследу з боку кіраўніцтва, папрасіў не называць ягонага прозвішча:

"Нас інструктавалі - каго асобна, а так больш па невялікіх групах. Пачалі з таго, што не павінна быць ніякай самадзейнасці. Пытанні задаваць кароткія, па сутнасці, не засяроджвацца на малых заробках, не скардзіцца на побыт і г.д.

Рабіць усё дзеля таго, каб стварыць атмасферу ўсеагульнага даверу падтрымкі дзейнага прэзідэнта на асенніх выбарах. Апроч таго (гэта ўжо, напэўна, была непасрэдна служба аховы): не рабіць рэзкіх рухаў, не ўставаць загадзя з месца, не трымаць рукі ў кішэнях і не цягнуць іх угару. Адным словам, не высоўвацца без патрэбы".

Дарэчы, нешта падобнае ўжо адбывалася падчас наведвання Лукашэнкам Мінскага трактарнага заводу. Тады некаторыя рабочыя прыгадвалі, што, апроч ужо звыклых працэдур праверкі, у падазроных памяшканнях нават заварвалі аўтагенам дзверы, а некаторым рабочым з не зусім станоўчай рэпутацыяй загадалі ў той дзень наогул не выходзіць на працу.

Радыё "Свабода".

## Яны ратавалі габрэяў

**У Амбасадзе Ізраіля ганаравалі Праведнікаў народаў свету — беларусаў, якія ратавалі габрэяў падчас Другой сусветнай вайны.**

Сённяшняе шанаванне Праведнікаў народаў свету было прымеркавана да 60-й гадавіны нападу нацысцкай Германіі на СССР. Цырымонію распачаў ізраільскі амбасадар Марцін Пэлед-Флэкс:

"У перыяд чорных дзён тэрору, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай Халакосту, гэтыя людзі рызыкавалі сваім жыццём і жыццём сваіх родных у гераічнай барацьбе супраць нацызму. Яны ратавалі жыццё іншым людзям, якіх фашысты знішчалі толькі за тое, што тыя нарадзіліся габрэямі".

Сёння яшчэ 11 жыхароў Беларусі атрымалі ганаровае званне Праведнікаў народаў свету. Сярод іх Іван Навадворскі з Ратамкі, нядаўна яму споўнілася 104 гады.

Іван Навадворскі і ягоная жонка Антаніна выратавалі жыццё Шаю Лавіту і Іосіфу Годэсу. Нягледзячы на смяротную рызыку, бо разам з Антанінай ды Іванам жылі іхныя бацькі ды тры дачкі, яны двойчы ў час вайны хавалі габрэяў у сваёй хаце. Шая Лавіт і Іосіф Годэс двойчы ўцякалі з валожынскага гета і двойчы знаходзілі прытулак у хаце Навадворскіх. Іван пабудаваў для іх адмысловае сховішча. Адметна, што акрамя Івана і Антаніны, ніхто не ведаў пра тое, што ў хаце хаваюцца габрэі.

Іван Навадворскі пашкадаваў, што ягоная жонка Антаніна не дажыла да гэтага дня.

Сёння разам з Іванам Навадворскім ганаровыя званні Праведнікаў народаў свету атрымалі Ірына Паўлава-Простак, Тамара Ліпень, Вячаслаў Варакса, Аляксандр, Стэфанія і Ганна Данілевічы, а таксама Мікалай і Юлія Каратай ды іхны сын Мікалай. Дыпломы праведнікаў атрымалі ўжо больш за 300 беларусаў.

Радыё "Свабода".

# ЗДАДЗЕНЫ Ў ЭКСПЛУАТАЦЫЮ

**БЯРОЗА.** У горадзе здадзены ў эксплуатацыю новы лячэбна-дыягнастычны корпус цэнтральнай раённай бальніцы. У ім размешчаны лабараторыя, аддзяленне медыцынскай рэабілітацыі, кабінет спелеатэрапіі, які аснашчаны сучаснай калакамерай, вадалячэбніцай, залай лячэбнай фізкультуры з кетлераўскімі трэнажорамі.

У гэтым жа корпусе размешчаны цэнтралізаванае стэрылізаванае аддзяленне, актавая зала, кабінеты адміністрацыі райбальніцы.

Гараджанам падабаецца не толькі сучаснае абсталяванне, якое дапамагае лячыць розныя хваробы, але і прафесійнае, клапатлівае абслугоўванне ўсіх наведвальнікаў.

Валянціна БАРЫСЕНКА.




Новы лячэбна-дыягнастычны корпус г. Бярозы.

## Сіроты пры жывых бацьках

### Іх колькасць, як ні дзіўна, расце

**ДРАГІЧЫН.** Пачну з лічбаў. У судзе Драгічынскага раёна знаходзіцца 605 спраў аб спагнанні з бацькоў аліментаў. Гэта тыя, хто ўхіляецца ад уплаты грашовай дапамогі дзецям, нідзе не працуюць або ўтойваюць свой заробак ад судовых выканаўцаў і сваё месца жыхарства.

А ў адносінах да 20 бацькоў-уцекачоў аб'яўлены вышук. На 31 даўжніка аліментаў (яны працяглы час ухіляюцца ад дапамогі сваім дзецям) матэрыялы знаходзяцца ў райаддзеле міліцыі для ўзбуджэння крымінальных спраў.

На жаль, колькасць крымінальных спраў па нявыплаце аліментаў расце. Калі ў 1999 года іх было тры, то летась ужо — 16, а сёлета — ужо восем. Прыходзіцца з сумам канстатаваць, што колькасць сіротаў пры жывых бацьках павялічваецца. І змен у лепшы бок пакуль што не відаць.

Галіна АЛЕКСЯЕВІЧ.

## Незалежных у камісіі не будзе

**БЯРОЗА.** Правяраць подпісы і лічыць галасы выбаршчыкаў на выбарах прэзідэнта Беларусі ў райцэнтры і раёне будуць толькі праверапыя людзі. На сумесным пасяджэнні 18 чэрвеня Бярозаўскія райвыканкам і райсавет стварылі раённую выбарчую камісію з 13 чалавек. Ніводнага з пяці незалежных ад уладаў прадстаўнікоў грамадскасці ў склад камісіі не ўключылі.

Сяргей РУСЕЦКІ.

## Начальнікам — зялёнае святло

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Быць членамі раённай камісіі на выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь тут прэтэндавалі 17 чалавек. Сталі імі, як звычайна, начальнікі розных узроўняў (11 чалавек!) Цікава тое, што 9 з іх вылучаліся ў склад камісіі ад грамадзян шляхам падачы заяў, а не ад працоўных калектываў. Незалежнаму прастаўніку грамадскасці В. А. Гейцу ў камісіі месца не знайшлося.

Іван ВАБІШЧЭВІЧ.

## Как заплатить зарплату в 100$?

**ПРУЖАНЫ.** По состоянию на 29 мая в районе в госбюджет недополучено 412,6 миллионов рублей, из них 218,6 — в районный. На долю АПК приходится 136,8 миллионов рублей долга.

Наиболее крупные должники — завод радиодеталей (124,4 млн.), райагропромснаб (82,3 млн.), райсельхозхимия (64,3 млн.), Ружанская мебельная фабрика (33,7 млн.), комбинат стройматериалов (29,1 млн.).

В отношении должников на заседании исполкома было принято решение обязать в короткий срок предоставить в налоговую инспекцию графики ликвидации задолженностей.

Кристина КРУГЛЕВИЧ.

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 20.06.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500—3000 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3700 | 2600—3000 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2200—2500 | 2600 | 2700 |
| Алей (1 л) | 800—1100 | 800—1100 | 750—950 | 800—1200 | 900—1200 |
| Яйкі | 850—900 | 800—1000 | 900—1000 | 1000 | 1000—1050 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 680 | 630—670 |
| Шпроты | 450—470 | 400—420 | 500 | 400—450 | 570 |
| Масла сметанк. | 2200 | 2000 | 2000 | 2000 | 2100 |
| Бульба | 100 | 100—120 | 100 | 100—120 | 110—120 |
| Цыбуля | 700 | 450 | 500 | 500 | 450 |
| Морква | 1500 | 300 | 300 | 350 | 350 |
| Капуста | 600—800 | 1000 | 500 | 550—700 | 1000 |
| Памідоры | 1700 | 1700—2000 | 1600 | 2000 | 1400 |
| Буракі | 60—80 | 120—140 | 60—80 | 80 | 90 |
| Чарэшня | 3000 | 1500—2500 | 3000 | — | 3000 |
| Грэцкія арэхі | 1800 | 2000 | 1500 | 1300—2100 | 1800 |
| Яблыкі | 800—1500 | 700—1500 | 800—1300 | 800—1500 | 800—1000 |
| Маянэз | 250—400 | 240—420 | 250—420 | 270—450 | 250—520 |
| Вінаград | 5000 | 3800—5000 | 3800—4500 | 4500 | 4000—4700 |
| Агуркі | 600—800 | 700—900 | 700 | 700 | 600 |
| Часнок | 1900—2000 | 1800 | 2000 | 1800 | 1300 |
| Лімоны | 1900 | 1400—1600 | 1600 | 1600 | 1100 |
| Апельсіны | 1500 | 1200—1300 | 1300 | 1350 | 1600 |
| Бананы | 1100—1200 | 1000—1200 | 1000—1300 | 1300 | 1200 |
| Клубніцы | 1200—1300 | 1100—1500 | 1000 | 1200—1300 | 1000 |
| Грэчка | 550—600 | 650 | 650 | 660 | 630 |
| Макар. вырабы | 550—650 | 500—600 | 580—650 | 500—600 | 670 |
| Рыс | 500—550 | 500—520 | 550 | 560 | 600 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 540 | 530 |
| Проса | 350—400 | 330 | 380 | 400 | 380—400 |
| Цукар | 580 | 600 | 600 | 610—640 | 600 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000-4.100 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1400 | 1500 | 1380 | 1410 | 1400 | 1450 | 1400 | 1480 | 1400 | 1450 |
| 1 дойчмарка | 595 | — | 580 | 610 | 590 | 610 | 587 | 610 | 590 | 610 |
| 1 рубель Расіі | 45 | — | 44 | 46 | 44 | 49 | 46 | 49 | 46 | 49 |

## Пачым парасяты?

**ІВАЦЭВІЧЫ**
40000 — 50000 (за пару);

**БАРАНАВІЧЫ**
65000 — 85000 (за пару);

**БЯРОЗА**
50000 — 65000 (за пару);

**ПРУЖАНЫ**
60000 — 70000 (за пару);

**ДРАГІЧЫН**
50000 — 70000 (за пару).



# АНДРЕЙ КЛИМОВ:

## экономическое правонарушение или политическая расправа?


Бизнесмен и депутат Верховного Совета 13-го созыва Андрей Климов.

**Депутат Верховного Совета 13-го созыва, бизнесмен Андрей Климов содержится в условиях изоляции более трех лет. По своей продолжительности судебный процесс над ним был самым "громким" и затяжным, а по адекватности мер наказания соденному - самым жестким.**

Всего по делу сколоченной им "преступной группы" проходило девять человек, в числе которых оказалось шестеро подчиненных Климова и двое мелких клерков из Управления капитального строительства Минского горисполкома. Результатом судебного марафона, длившегося без малого восемь месяцев, стало лишение депутата свободы сроком на шесть лет, его компаньона Леонида Волковича - на четыре года. Остальных кого оправдали, кого осудили условно, кого амнистировали. Что лишний раз подтвердило - дело "заряжали" под известного оппозиционера, бросившего вызов режиму, а восьмерых подсудимых "привлекли" к массовке, как это не кощунственно звучит, для антуража.

Депутат, руководитель ряда коммерческих фирм, давший им свое имя, Андрей Климов был арестован 11 февраля 1998г. Ему были предъявлены обвинения по ст.91 ч.4 Уголовного кодекса РБ "Хищение в особо крупных размерах", ст.150 "Вымаливание кредита", ст.151 "Нарушение порядка осуществления предпринимательской деятельностью", ст.171 "Должностной подлог".

Главным объектом пристального внимания следствия стал жилой дом повышенной комфортности для дипломатов по столичной улице Лодочной. МП "Андрей Климов" выступало подрядчиком строительного объекта, УКС Мингорисполкома - заказчиком, оно же осуществляло контроль за расходованием авансируемых и передаваемых подрядной организации бюджетных средств.

22 июля 1999г. суд Ленинского района под председательством судьи Веры Тупик приступил к исследованию материалов дела Климова и организованной им "с целью преступного замысла" группой лиц. При этом Фемида, как считают адвокаты, уклонилась от уточнения и анализа доказательств направленности умысла у подсудимых на совершение хищения, и фактически продублировала в этой части выдвинутую органами предварительного следствия версию. Прежде всего речь шла об ошибке при проектировании объемов кирпичной кладки дипломатического жилого дома в сторону их завышения. Именно этот эпизод явился главной версией обвинения. Искусственно вырвав из сметы на строительно-монтажные работы объекта 19-ю позицию о завышении объемов кирпичной кладки и обсасывая ее со всех сторон, суд вместе с тем неоднократно отметал ходатайства защиты всех девяти подсудимых о проведении бухгалтерско-финасовой и комплексной строительно-технической экспертиз, от которых напрямую зависел исход приговора. Насколько были важны результаты экспертов свидетельствовал и тот факт, что срок предварительного следствия по делу Климова был продлен, в частности, с 11 февраля 1998г. еще на четыре месяца - так, по крайней мере, вытекало из документа, направленного 10 февраля 1998г. старшим следователем по особо важным делам Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД капитаном милиции Алешкиным и начальником того же комитета полковником милиции Кужелем в адрес тогдашнего генерального прокурора Божелко.

По мнению адвокатов, возникшая по данному делу правовая коллизия, не могла быть использована как аргумент для обоснования уголовного деяния - хищение в особо крупных размерах. Поскольку имело место ни что иное, как хозяйственный спор между субъектами хозяйствования - заказчика и подрядчика. О чем свидетельствовал пункт 1.6 декрета президента N 14 от 4 августа 1997г., предусматривающий за завышение объемов строительно-монтажных работ наложение штрафных санкций применительно и к заказчику, и к подрядчику: один завышал объемы, другой - не досмотрел. Но никак не уголовное наказание. И уж тем более, связанное с лишением свободы. Тем не менее судья Вера Тупик обыграла этот эпизод так, словно президентского декрета вовсе в природе и не существовало.

Таким же образом был исследован вопрос, касающийся взаиморасчетов авансируемых для строительства дипломатического дома средств, якобы похищенных Климовым и его подельниками. Общеизвестная практика: все взаиморасчеты производятся после сдачи строительного объекта в эксплуатацию. Климов и Волкович этого сделать не могли по одной простой причине: их арестовали задолго до завершения строительства объекта. Уже на стадии судебного разбирательства руководству УКСа предлагалось, образно говоря, сесть за стол переговоров с тем, чтобы стороны могли произвести взаимный расчет по всем позициям стройки и выяснить, кто кому должен. Однако подсудимым и их защите и в этом было отказано. Скорее всего потому, что согласно предварительным расчетам УКС был должен Климову, а не наоборот, как следовало из обвинительной версии.

В пользу сказанного говорит и сам приговор, указывающий на то, что сроки сдачи важного для города объекта то и дело откладывались в связи с отсутствием в Минском горисполкоме, курирующем стройку, финансирования. И это при том, что согласно договору подряда именно на заказчика была возложена обязанность обеспечения стройки необходимыми средствами. Поэтому Климов брал деньги в банке, владельцем которого он являлся, и направлял их на строительство объекта. Именно поэтому Климов и Волкович были оправданы судом по части обвинения в хищении, связанного с вымаливанием кредита в том числе. Также они были оправданы еще по одному эпизоду - нарушение порядка осуществления предпринимательской деятельности.

Можно ли при таких обстоятельствах говорить о том, что мы имеем дело с расхитителями, которые спали и видели, как прибрать к рукам денежки УКСа. Да эти денежки сами "приплыли" бы к берегам МП "Андрей Климов" только лишь потому, что в договоре между заказчиком и подрядчиком была определена договорная цена. Неизменная при любой погоде цена, согласно которой сэкономленные при строительстве объекта средства принадлежат подрядчику, то бишь МП, но никак не УКСу.

Вся эта нехитрая арифметика дала повод представителям защиты по данному делу усомниться в объективности и независимости суда, равно как в законности и обоснованности вынесенного им обвинительного приговора в отношении Андрея Климова и членов созданной им "преступной группы".

Собственно, а могло ли быть иначе. Ведь этот судьбоносный, показательный процесс имел ярко выраженный политический окрас. И затевался он вовсе не для того, чтобы оправдать Климова, а напротив, засудить, показав тем самым, кто в стране хозяин и что ждет тех, кто идет ему наперерекор.

В своем последнем слове Андрей Евгеньевич не преминул вспомнить добрым того, кто разлучил его с семьей и бросил его на тюремные нары: "5 января 96-го года мы с президентом, Богданкевичем, Кебичем и еще двумя депутатами были в одной компании и пили водку. Тогда Лукашенко и сказал: Андрей, ты предприниматель, а у народа одно только мнение: значит, ты что-то украл, и посадить тебя никакой проблемы нет. Потому что ни у кого даже мысли не возникнет, что ты честный человек. Ты - предприниматель. Поэтому я тебе просто подсказываю, будь со мной, переходи в мой лагерь, иначе..."

Не перешел. Даже тогда, когда после референдума коллеги по Верховному Совету напомнили об этом разговоре, парламентарий Климов, поставивший свою подпись под импичментом президенту, не пошел с челобитной на Карла Маркса, 40, где уже заседало будущее представительство нижней палаты. Не пошел на поклон и тогда, когда зимой 1999-го был доставлен из СИЗО "Володарки" в зал суда жестоко избитым, в разорванной одежде, босым. Прибывшие врачи засвидетельствовали у подсудимого наличие ряда увечий и травм, однако вопреки их заявлению о срочной госпитализации Климова судья Вера Тупик распорядилась отправить его обратно в следственный изолятор. Все это действо происходило на глазах у матери Андрея Аллы Петровны, его бессменного защитника на протяжении всего судебного процесса.

... Даже за считанные до вынесения приговора минуты, 34-летний Андрей Климов, отец троих детей, вряд ли думал о себе. Глядя в направленные на него видеокамеры и микрофоны, он говорил о Беларуси, о нашем с вами будущем. Казалось, конвоиры и те забыли о своих уставных обязанностях. Чеканя каждое слово, Климов оставался тем же "депутатом у микрофона", как и пять лет назад: ироничным, остроумным, самоуверенным. Он по-прежнему улыбался...

Таким он остается, несмотря на четвертый год заточения, и по сей день. Будучи живым укором и доказательством преступлений власти, ее бессилия.

**Ася ТРЕТЮК.**




7 ліпеня 2000 года знік наш калега Дзмітрый Завадскі. Хутка год, як ягоная сям'я пазбаўлена бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзмітрыя Завадскага і даслаць ахвяраванні на разліковы рахунак Святланы Міхайлаўны Завадскай. Калі ласка, абавязкова пазначайце прызначэнне плацяжа: **АХВЯРАВАННЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА.**

Рэквізіты банка-атрымальніка:
**Рахунак для ахвяраванняў у валюце:**
**PRIORBANK**
Minsk V.Horuzhey str.31-A
**SWIFT Code: PJCB BY 2X**
**3134125305029**
Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**
**Рахунак для ахвяраванняў у беларускіх рублях:**
**Р/р 3134125300011,**
**"Пріорбанк" ОАО, код 749**
Атрымальнік: **Святлана Міхайлаўна Завадская.**

*ВЫБОРЫ-2001*

# Откуда взялся вирус?..

**18 июня 2001 года Центральная комиссия по выборам и проведению республиканских референдумов зарегистрировала инициативную группу по сбору подписей в поддержку выдвижения кандидатом в президенты лидера Координационной рады "Региональная Беларусь", бывшего руководителя Гродненской области Семёна Домаша.**

Список инициативной группы был подан в Центризбирком ещё 12 июня. Однако позже члены инициативной группы обратились в Центральную комиссию с заявлением об отзыве первоначального варианта списка и замене его новым в связи с выявленными неточностями. Этим и объясняется задержка с регистрацией инициативной группы.

После проверки подписей Центризбирком оставил в списке инициативной группы С. Домаша 3695 фамилий из 3698. Три человека были названы несовершеннолетними. Руководитель инициативной группы Евгений Лабанович уточнил, что совершеннолетие этих лиц как раз совпало с периодом проверки списка, поэтому после 21 июня они вполне могли бы участвовать в кампании, но Центризбирком руководствовался не датой начала сбора подписей, а моментом регистрации группы.

После вручения регистрационного удостоверения инициативной группе Сёмён Домаш прокомментировал возникшие недоразумения со списком. "Во время подготовки списка группы на экране монитора всё выглядело нормально, но при распечатке оказалось, что все члены группы вдруг помолодели на 4 года. Это несоответствие выяснилось, когда список был уже в Центризбиркоме, поэтому мы обратились в комиссию с просьбой о замене списка. Нам пошли навстречу. После проверки компьютеров был выявлен вирус, который и испортил список", — сказал С. Домаш.

Сбор подписей в поддержку Семёна Домаша в соответствии с Избирательным кодексом начался 21 июня. Претендент в президенты уверен, что его инициативная группа успешно справится с поставленной перед ней задачей.

**Пресс-служба инициативной группы Семёна ДОМАША.**

# "ВАЙНА СНІЦЦА..."

**Антон Дзянісавіч Худзінскі — жыхар горада Косава. Многа гадоў жыве тут. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Адзначаны медалямі "За адвагу", Партызану Айчыннай вайны II ступені, ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны II ступені, іншымі ўзнагародамі. Зараз Антон Дзянісавіч — інвалід II групы.**



**Антон Дзянісавіч Худзінскі (фота 1948 г.).**

На сваё жыццё Антон Дзянісавіч не скардзіцца. Хіба што старыя балячкі не даюць спакою — здароўе падводзіць. І яго, і гаспадыні Веры Васільеўны.

— Вайна і сёння мне сніцца, — кажа Антон Дзянісавіч. — Хіба можна забыць тое, што перажыта.

Калі грымнула вайна, Антону Худзінскаму яшчэ не споўнілася і 14 гадоў. А ўжо ў 16 ён стаў партызанам атрада імя Дзімітрава. Гэта было летам 1943 года. Партызаніў Худзінскі да вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Хадзіў у разведку, на шашу і чыгунку, удзельнічаў у рэйкавай вайне. Сам асабіста пусціў пад адхон тры варожыя эшалоны.

Пра адзін з эпізодаў партызанскага жыцця хочацца расказаць больш падрабязна.

18 студзеня 1944 года партызанскія падрыўнікі справіліся з заданнем і вярталіся на сваю базу ў Гута-Міхалінскім лесе. Двое пайшлі ў размяшчэнне атрада, а трое засталіся паблізу вёскі Малы Бор, каб адшукаць на месцы ранейшага бою артылерыйскі снарад, а затым выплавіць тол і вырабіць партызанскія міны. Знайшлі снарад і вырашылі адпачыць у вёсцы, каб ранкам заняцца работай.

Але на досвітку вёску акружылі немцы. Хацелі партызаны схавацца на гарышчы ў гаспадара, дзе заначавалі, аднак гаспадыня нарабіла лямanту і давялося па-за хлявамі прабірацца да лесу. Але шлях туды перагарадзілі немцы. Заставалася адно — бегчы да ракі Шчары. Яна была адразу за вёскай.

Яшчэ мінулым днём здорава пахаладала. Шчара пакрылася лёдам. І хлопцы рашылі паспрабаваць "фарсіраваць" раку. Злева бег Вася Смаленскі, справа — Міша, а пасярэдзіне — Антон.

Узбегшы на лёд, Вася адразу праваліўся — лёд не вытрымаў. Антон чуў выстралы і галёканне, але не спыняўся, хаця лёд трашчаў і, здавалася, вось-вось праваліцца. Ужо каля берага Худзінскі ўбачыў, як упаў на лёдзе Міша. Ускочыўшы на бераг, Антон пабег далей. На тым купчастым балоце таксама месцамі трашчаў пад нагамі лёд, але спыніцца ніяк нельга і аглядвацца — таксама. Да лесу заставалася ўжо метраў дзвесце.

— Раптам я адчуў, — успамінае Антон Дзянісавіч, — як нешта моцна кальнула левую нагу. Але я бег. Потым ззаду ў бядро моцна штурханула, што я ледзь утрымаўся на нагах. Але праз колькі крокаў, зачапіўшыся за нейкую купіну, расцягнуўся на зямлі. Вінтоўка выслізнула з рук і ляжала ў метрах двух ад мяне. "Гэта ўсё", — думаў я тады і не ўставаў, ляжаў, нібы мярцвяк. Можа, праз паўмінуты павярнуў галаву да ракі і ўбачыў, што пагоні няма. Немцы і паліцаі сталі ля ракі. Тады я падпоўз, узяў вінтоўку, схапіўся з месца і пабег. Мяне зноў заўважылі, пачалі страляць, але я ўжо быў у рэдкім кустоўі...

Толькі ў лесе Антон Худзінскі зрабіў перадышку. Спрабаваў перавязаць бядро — не атрымалася. Усе штаны былі ў крыві. Трохі закруціў нейкай латкай параненую руку і падаўся далей. Чым больш ішоў, тым станавілася цяжэй. Разбалелася нага. Да нейкага хутара на ўскрайку лесу ледзь дабраўся, пераступіў парог хаты і паваліўся на падлогу. Ад стомленасці і страты крыві згубіў прытомнасць. Гаспадыня хутара выхадзіла Худзінскага, і ён ужо з палкай выйшаў на дарогу да вёскі Сцяневічы. Сюды мужыкі вазілі з балота сена. З адным з іх Антон дамовіўся, і той адвёз яго ў Гута-Міхалінскі лес. Да 19 красавіка Худзінскі лячыўся ў партызанскім "шпіталі", а потым зноў уліўся ў рады партызан.

Што ж сталася з Антонавымі сябрамі ў той дзень, 19 студзеня, якраз на хрышчэнне? Пра падрабязнасці Худзінскі даведаўся потым.

Мішу дагнала куля на лёдзе. Там ён і застаўся. А Вася Смаленскі потым сам расказаў пра ўсё Худзінскаму.

— Праваліўшыся пад лёд — гаворыць Антон Дзянісавіч, — Вася не разгубіўся. Ён адчуў пад нагамі дно. А тут у некалькіх метраў кусты лазы з чаротам, з нейкай сухой травой. Пад лёдам дабраўся туды, прабіў дзірку для галавы, сеў на зямлю між чароту, трохі высунуўшы галаву, каб можна было дыхаць. Чуў, як немцы і паліцаі бегалі вакол. Разабраў толькі слова "капут". Пагергеталі, пастралялі і пайшлі. А Вася застаўся сядзець у вадзе да вечара, бо немцы пайшлі ў вёску.

Толькі калі сцямнела, Вася Смаленскі выбраўся са сваёй вадзяной "схованкі", мокры і ледзь жывы дадыбаў да хутара, дзе яму далі выпіць самагонкі, расцерлі ўсё цела гарэлкай, апранулі ў сухое адзенне і паведамілі ў атрад.

Ніхто не думаў, што Вася ачуняе. Ён быў увесь жоўты, як успамінае Худзінскі. Ляжалі і лячыліся ў адным "шпіталі". Усё ж выжыў хлопец са Смаленшчыны, і разам з Антонам яшчэ хадзіў на баявыя заданні. Пасля заканчэння вайны дарогі Антона Худзінскага і Васі Смаленскага разышліся.

Як жа склалася жыццё Антона Худзінскага ў мірны час? Жыў спярша ў бацькоў ў вёсцы Грыўда. Бацька вярнуўся з вайны пасля ранення слабы і неўзабаве памёр. У 1949 годзе Худзінскага прызвалі на службу ў армію. Пасля будаваўся спярша ў Грыўдзе, а потым хату перавёз у Косава. Больш як трыццаць гадоў працаваў загадчыкам гаспадаркі ў мясцовай бальніцы. У Худзінскіх двое дарослых дзяцей — сын і дачка. Жывуць у Мінску. Пяць унукаў прыязджаюць у Косава да дзеда і бабулі.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. Косава Івацэвіцкага раёна.**

# Почему у нас фермеров мало?

**Кто такой фермер? Как утверждает БТ, это человек, который имеет трехэтажный особняк, конюшню, три машины в гараже. И всегда при деньгах. Однако, это рассчитано на наивного обывателя. Действительность такова, что белорусы не спешат становиться фермерами.**

Почему? Трудности с землёй? Никак нет. Например, в Пружанском районе таких трудностей нет. Это благодаря председателю райисполкома. Как говорят сами фермеры, Александр Юркевич — "мужик от земли", все крестьянские беды знает.

Тогда в чем же причина? Официальная версия — неурожаи и нерадивость новоявленных хозяев от земли. Если первое как-то и можно проглотить, то последнее какое-то неудобоваримое. Да, среди трудолюбивых белорусов хватает лентяев, однако, не думаю, что они в фермеры рвутся.

Вот версия самих фермеров. Первое, это кредиты. Любому предприятию, даже самому процветающему, необходимо кредитование. Понимают это и на высшем уровне. Взять хотя бы Указ Президента РБ "О кредитовании фермерских хозяйств", по которому деньги выделяются под залог будущего урожая. Да вот ведь незадача, банкам-то Указ не указ и выполнять его они не спешат. Одному фермеру, с которым я беседовала, предложили использовать эту бумагу по её "прямому" назначению. Среди таких горемык ходит молва, что для того, чтобы получить кредит, часть из него надо сразу отдать.

Конечно, есть счастливчики, которые всё-таки деньги получили. Только сразу, в первый год, вернуть его могут единицы. Нужно время, а его-то им никто не даёт. Это колхозам можно не возвращать кредиты и не погашать долги (колхоз-комбинат "Советский" только за электроэнергию должен более полмиллиарда рублей). Фермер должен отдать всё в срок. Хотя опять же надежд на то, что эти деньги к сроку будут, никаких. Даже если урожай не подкачает.

О сбыте продукции. Нашёл покупателя на будущий урожай — посадил, не нашел — можешь выращенный урожай опять в землю закопать.

Есть еще одна проблема у хозяев земли — воровство. У фермера всё хорошее, сортовое, да и много — чуть-чуть можно взять. И не страшно, если при этом немного ограду поломаешь: у этого толстосума денег много — починит. А если милиция поймает, вряд ли засудят, по закону уголовное дело заводится, когда урон превышает 40 "минималок". И пусть только выльет свой справедливый гнев хозяин, который за сезон таких мелочей теряет на несколько тысяч долларов, быстро в суд затянут и виноватым сделают.

Напоследок убивает равнодушие к работе фермеров со стороны различных служб. Например, решил Николай Дацкевич (его фермерское хозяйство "Зубр" рекламы не требует) возродить в Пружанском районе выращивание хмеля. Подготовил землю, вложил около десятка тысяч "зеленых" в саженцы, нашел покупателя в лице СП "Бизон". Это всё дало возможность трудоустроить полтора десятка человек. Дацкевич обратился в центр занятости с бизнес-планом будущего дела за кредитом на создание рабочих мест. Хорошо, сказали ему, кредит получишь, но на создание 33 мест. Да ему не надо столько, не потянет, средств не хватит. Тогда, до свидания. Вот и все дела, "запахал" фермер свою идею и в прямом, и в переносном смысле. Итак, теперь, читатель, узнав всё вышеперечисленное, ты и сам сможешь ответить на вопрос, почему у нас фермеров мало.

**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**
**г. Пружаны.**

# Куда пойдем учиться?

На этот вопрос отвечают выпускники школ Берёзовского района



**Галина ЩЕРБА, Селецкая СШ.** Буду поступать в Барановичский колледж на отделение по специальности психолог. Люблю находиться среди людей, работать с людьми, хочу помогать им. Чувствую, что этот моё призвание. Отсюда и этот выбор.



**Виталий ХИЛЬКО, Селецкая СШ.** Буду поступать в Брест, в технический университет, электронно-механический факультет. В школе нравилась физика и математика. Если не получится с первого раза, буду пробовать ещё и ещё.



**Ольга ХМАРА, Селецкая СШ.** Собираюсь поступать в Брестский педуниверситет на факультет "Психология дошкольного воспитания". Мне нравится работа психолога и, если всё сложится удачно, то им и буду. Если нет, пойду в медучилище.



**Андрей КРАВЧУК, Первомайская СШ.** Я выбрал Гродненский сельхозинститут, факультет зооинженерия. Нравятся профессии, связанные с работой с животными. Если не получится, поступлю в техникум на такую же специальность.



**Юлия МЕЛЕХ, Первомайская СШ.** Для поступления я выбрала Барановичское медучилище. Люблю детей, хочу стать детским педиатром. Училище — это начало. Если профессия понравится — буду учиться в этом направлении и дальше.



**Галина РЕЗНИЧЕНКО, Селецкая СШ.** Поступаю в Гродненский мединститут, специальность — детский врач. Мне очень нравится общаться с маленькими детьми. Ещё нравится профессия учителя начальных классов.

**Выпускников опрашивал и фотографировал Николай СИНКЕВИЧ, г. Береза.**

# ВОЛЬНЫ РЭГІЁН

## У АБАРОНУ РОДНАЙ МОВЫ

**Паводле вынікаў перапісу насельніцтва 1999 года 73,7% грамадзян Беларусі прызнаюць беларускую мову роднай...**

Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны - гэта добраахвотная непалітычная арганізацыя, у якой аб'ядналіся прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты з мэтай забеспячэння рэальнага дзяржаўнага статусу мове карэннага этнасу Беларусі. Дзейнасць ТБМ накіравана на забеспячэнне правоў беларускамоўных грамадзян карыстацца сваёй роднай мовай. Таварыства не выступае за абмежаванне правоў рускамоўнага насельніцтва, але дамагаецца павагі да роднай мовы беларусаў. ТБМ дзейнічае афіцыйна, у чэрвені 1989 года яно зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі як некамерцыйная грамадская арганізацыя. З 1999 г. і па сённяшні дзень Таварыства ўзначальвае кандыдат гістарычных навук, вядомы грамадскі дзеяч Беларусі Алег Трусаў.

Таварыства — адна з самых масавых грамадскіх арганізацый сучаснай Беларусі, і на сённяшні дзень яно налічвае не менш чым 9000 сяброў, прыхільнікаў беларускай мовы. Яны аб'яднаныя ў 106 арганізацый. Болей таго, ТБМ - арганізацыя інтэрнацыянальная, — створаны і працуюць суполкі прыхільнікаў беларускай мовы у Польшчы, Расіі, Чэхіі, Канадзе, Германіі.

**Беларускай мове чатыры тысячы гадоў.**

Якімі ж справамі займаецца Таварыства сёння? Зараз яно вядзе па ўсёй Беларусі актыўны збор подпісаў за адкрыццё Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. Улады вымушаны прызнаць існаванне гэтай праблемы, пра што ідзе гаворка на экранах БТ і старонках афіцыйных газет. Ужо сабрана каля 50 тысяч подпісаў і гэтая акцыя ўвесь час працягваецца.

У ліпені прошлага года Старшыня ТБМ А.Трусаў сустракаўся з Міністрам адукацыі В.Стражавым і перадаў міністру праект Статуту і Канцэпцыю БНУ, а таксама іншыя матэрыялы, звязаныя з яго адкрыццём. Васіль Стражаў запэўніў удзельнікаў сустрэчы, што рыхтуецца дзяржаўная праграма адкрыцця ў вядучых ВНУ Беларусі з 1 верасня 2001 г. беларускамоўных плыняў.

Таварыства пастаянна звяртаецца ў розныя дзяржаўныя установы, на прадпрыемствы па праблемах мовы. Сакратарыят ТБМ неадназова хадайнічаў перад рознымі структурамі Міністэрства адукацыі аб захаванні беларускамоўных класаў па просьбе бацькоў, якія звярталіся ў Таварыства.

**Самы вялікі збор фальклору ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы зафіксаваны на беларускай мове.**

Дзякуючы гэтаму, беларускія класы былі захаваныя ў многіх школах, у тым ліку і ў нашым рэгіёне.

Акрамя гэтага, ТБМ праводзіць навуковыя канферэнцыі, конкурсы, выданне календароў, паштовак, ладзіць сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі, ажыццяўляе бясплатную раздачу беларускіх кніжак для бібліятэк і музеяў, рэгіянальных структур. За апошнія два гады раздадзена каля 20000 асобнікаў кніг.

Што тычыцца грамадска-палітычных стасункаў ТБМ, то яе сябры прынялі актыўны ўдзел ва Усебеларускім з'ездзе 29 ліпеня 2000 г., у Кангрэсах дэмакратычных сіл Беларусі. На апошніх выбарах у Палату Прадстаўнікоў ТБМ выставіла каля 800 назіральнікаў.

У ТБМ склаліся добрыя стасункі з Міністэрствам замежных спраў Беларусі, вядзецца актыўнае супрацоўніцтва з Міністэрствам абароны. З кастрычніка мінулага года ТБМ актыўна распрацоўвае стратэгію развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі і Дэкларацыю аб беларускай мове.

**Беларуская мова і літаратура вывучаецца ў 12 універсітэтах за межамі Беларусі.**

Асноўныя задачы Таварыства Беларускай Мовы на будучыню:

- садзейнічанне зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый, гістарычнай памяці, фармаванню нацыянальнай і гістарычнай свядомасці;
- змаганне за адраджэнне на Беларусі нацыянальнай асветы, дашкольных установ і школ усіх тыпаў, ВНУ з выкладаннем усіх дысцыплін на беларускай мове;
- адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта;
- пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры;
- дапамога ўсім грамадзянам Беларусі небеларускага паходжання ў авалоданні беларускай мовай, набыцці трывалых ведаў у галіне беларускай гісторыі і культуры.

**Калі вы неабыякавыя да роднай мовы, калі вас клапоціць яе стан у сённяшнім грамадстве, калі вы жадаеце стаць сябрам ТБМ альбо атрымаць якую-небудзь дапамогу, звязаную з усім вышэйсказаным, звяртайцеся, калі ласка, па тэлефоне ў Бярозе 2-45-72, у Белаазёрску — 2-05-92.**

Мікола СІНКЕВІЧ.

Бяроза.

## Их будет только четверо

таким числом ограничено представительство членов общественных организаций в областной комиссии по выборам президента

**Из 13 человек, вошедших в Брестскую областную территориальную комиссию по выборам президента Беларуси, лишь четверо представляют общественные организации — председатель областной организации ветеранов, второй секретарь обкома БПСМ, председатель Союза предпринимателей по Брестской области и представитель профсоюза дорожников из Барановичей.**

Как сообщил БелаПАН начальник отдела организационно-кадровой работы облисполкома Александр Коледа, всего было подано 22 заявки. 18 июня на заседании в облисполкоме была сформирована комиссия из 13 человек - это максимальное количество, допустимое Избирательным кодексом. По словам Коледы, помимо четверых представителей общественных организаций, остальные члены комиссии были выдвинуты путем сбора подписей. Председатель комиссии пока не назначен.

Что касается участковых избирательных комиссий, то, по словам Коледы, их составы сформированы до 20 июня. Для проведения президентских выборов в Брестской области образованы 1.005 участков.

Вместе с тем БелаПАН стало известно, что наблюдателям отказывали в праве присутствовать на заседаниях по формированию районных комиссий: такие факты отмечены в Малорите и Пружанах. По словам местного координатора наблюдателей Язэпа Машкало, утром 18 июня он обращался в Пружанский райисполком, чтобы узнать, когда будет формироваться избирательная комиссия. Конкретного ответа он не получил, а после обеда узнал, что заседание прошло утром и районная комиссия уже сформирована.

В областном представительстве Белорусского Хельсинкского комитета БелаПАН сообщили, что ни один представитель правозащитной организации не вошел в состав районных и областной комиссий, хотя заявки были поданы во все территориальные комиссии.

Валентина КОЗЛОВИЧ,
БелаПАН.

## Ситуация изменится, если во власть придут порядочные люди,

а законы будут защищать простого человека



Иван Ястребов в гостях у "Газеты для вас".

**Всегда бодрый, подтянутый, активный, имеющий стойкую жизненную позицию, Иван Ястребов, 1-й секретарь Ивацевичского райкома ПКБ, фигура в наших краях приметная, колоритная.**

Сегодня Иван Николаевич наш гость.

**— Иван Николаевич, в какой мере партийная жизнь вообще и коммунистическая в частности интересует рядовых граждан глубинки?**

— В значительной. Люди интересуются политикой, хоть политическая ситуация в стране вносит свои коррективы.

Во-первых, некоторые партии и движения сегодня специально замалчиваются. Во-вторых, с 1991 года по нынешний день проведена мощнейшая деполизация наших сограждан, прежде всего, молодёжи. Теперь мы имеем электорат (20-30 лет), которые сегодня полные, как говорят, дофениста.

Но, тем не менее, ПКБ — мощная сила в нашем районе. У нас 7 "первичек", около 80 членов.

**— Многие сегодня говорят, что коммунистические идеалы, ориентиры устарели, потеряли свою значимость. Согласны вы с подобным тезисом?**

— Это ошибочное мнение. Коммунистическое движение — перспективное движение, оно займёт главенствующее положение в мире, не сомневаюсь.

И сегодня ПКБ сотрудничает с коммунистическими партиями в Северной Корее, Вьетнаме, Венгрии, Германии, Греции, Чехии. Самые тесные контакты у нас, разумеется, с КПРФ.

**— Но как вы оцениваете летаргический сон в декабре 1991 года, после Вискулей? Почему тогда все молчали, а уже через три-пять лет опомнились, молде, такую страну профукали?**

— Не все молчали. Что касается Ивацевичины, то бывший второй секретарь райкома Владимир Макар, а также Николай Пигальский, и ваш покорный слуга, немногие другие на местах (а в столице — Сергей Калякин, Василий Новиков, Виктор Чикин), образно говоря, подхватили упавшее было знамя. Уже тогда, в декабре 1991 года, мы провели учредительный съезд.

**— Ваше движение ещё ждала очень тяжёлая пора. Я имею ввиду ноябрь 1996 года, раскол.**

— Это только внешне неприятная ситуация; на самом деле от ПКБ отошла самая аморфная, бесхребетная часть приспособленцев, партийный баласт, те, кто желал бы быть ближе к телу начальника, а не к людям.

Будет ли объединение? Думаю, что нет. Пока у власти действующий президент — этого не будет. Наши расхождения идут по идейным позициям...

**— В чём, на ваш взгляд, секрет популярности Лукашенко?**

— В способности его говорить и обещать, вуалировать свои настоящие мысли и дела. Один из главных секретов — он пришёл к власти под социалистическими лозунгами. Скажу по правде, я в 1994 году, когда в наш райцентр приезжал кандидат Александр Лукашенко, плакал, слушая его сладкие речи, обещания. А что сделано за семь лет? А ведь его главный тезис: борьба с коррупцией — так и остался протоколом о намерениях.

...Около двух лет назад руководить районом был назначен Владимир Летяго — порядочный, честный человек. Это очень печально, что эти лучшие качества руководителя сегодня не востребованы, что Владимир Васильевич (а он человек практических дел, толковый руководитель, а не закулисный интриган) покинул этот пост.

Вопреки обещаниям сократить властные структуры, они с каждым годом увеличиваются. Десять лет назад руководство и контролирующие службы района занимали одно административное здание на Ленина, 44. А сегодня им и гостиницы мало, и других помещений. Где обещанные сокращения?

**— Какие задачи на ближайшие дни, месяцы?**

— Сами знаете — выборы. Всем нам предстоит сделать выбор: или безропотно согласиться с дальнейшим погружением страны, большинства её граждан в пучину нищеты и бедности, бесправия и произвола или изменить жизнь к лучшему.

Некоторые работники сегодня муссируют мысль о том, что если переизберут Лукашенко, то поднимется волна национализма. Уверен, это не так. Людям, добросовестно выполнившим свой профессиональный и гражданский долг, осточертели некомпетентность, грубость и своеволие, демонстрируемая тем, кто присвоил себе право решать всё и за всех, ни перед кем не отвечать ни за что.

Среди кандидатов на пост президента много достойных. Наш кандидат — Сергей Иванович Калякин, достойный, честный, порядочный, человек и коммунист.

Беседовал
Александр ГОРБАЧ
(фото автора).

